# ВЯРТАННЕ ВОСЕНІ

## Сцятыя вобразы

Вершы і антыпаэма

# Мікола КАНАНОВІЧ

*Нарадзіўся 13 сакавіка 1965 года ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна ў сям'і калгаснікаў. Скончыў Востраўскую ВШ (1980) і Міжэвіцкую СШ (1982), Гродзенскае прафтэхвучылішча №41 (1983). Працаваў кінамеханікам, служыў у войску. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта (1992) шэсць гадоў выкладаў беларускую мову і літаратуру ў СШ №8 г.Слоніма. З 1998 года працуе ў рэдакцыі "Газеты Слонімскай" на розных пасадах.*

*З пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў перыядычным друку выступае як паэт, празаік і журналіст. Друкаваўся ў літаратурных часопісах "Першацвет", "Маладосць", "Крыніца", "Роднае слова", "Правінцыя", "Дзеяслоў" і іншых перыядычных выданнях. Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў паэзіі "Квадра" (1990), "Анталогія маладога верша" (2001), "Верш на свабоду" (2002), "Галасы" (2003, 2005) і ўсіх выпускаў літаратурнага альманаха "Новы замак". Укладальнік і рэдактар зборніка "Паэтычная Слонімшчына" (2000) і двух выпускаў літаратурнага альманаха "Ад Я да Я" (2001, 2003) падлеткавага клуба "Святліца", што дзейнічаў у Слоніме пры грамадскім аб'яднанні "Воля да развіцця".*

*Аўтар кнігі паэзіі "І доўжыцца ноч..." (2003).*

*Сябра ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і Беларускай асацыяцыі журналістаў". Жыве ў вёсцы Пятралевічы на Слонімшчыне.*

# НА ДНЕ СТАМЛЁНАЕ ДУШЫ

У сваім прыватным фотаархіве захоўваю пару здымкаў, на  якіх адлюстравана моладзь вёскі Вострава Слонімскага павета каля вясковай хаты. Здымак быў зроблены ў 1930-х гадах. Старая хата для вясковых юнакоў і дзяўчат тады адыгрывала вялікую ролю, бо ў ёй моладзь стварыла народны дом і бібліятэку. Каля хаты стаяць юнакі і дзяўчаты, якіх сёння ўжо няма на гэтым свеце. Магчыма сярод усіх там, у кажухах і паліто, стаяць і сваякі з вёскі Вострава Міколы Канановіча. А калі б тады жыў Мікола, то быў бы сярод землякоў і ён там. І ён дапамагаў бы далучацца сваім землякам да роднай мовы, да роднага слова. Але кім сёння яго родная вёска на Слонімшчыне можа ганарыцца, як ні Міколам Канановічам – паэтам, журналістам, публіцыстам, ды проста таленавітым чалавекам, які з вясковай школкі сам па сабе выйшаў, як кажуць, у людзі. А тады ў першай палове XX стагоддзя яго вяскоўцы толькі марылі пра такіх сваіх юнакоў. І адзін з іх – праз дзесяцігоддзі апраўдаў іх давер па-сапраўднаму.

Ды што я гэта ўсё пра вёску і вёску. Але пра яе ў новым зборніку вершаў “Вяртанне восені” паэтычных радкоў досыць шмат. Вёска скразною лініяй праходзіць праз усе старонкі аўтарскіх “сцятых вобразаў”. Але гэта не проста дэкларацыйныя радкі, а чыста філасофскія. Мы добра ведаем, што пачынальнікам жанру беларускай філасофскай лірыкі быў Максім Багдановіч.

Сваёй паэтычнай практыкай ён даваў адказ на многія адвечныя пытанні. Наш песняр выказваў думкі, якія ўзнімалі людзей над прыродай, гісторыяй, над сусветам, ствараў гімн жыццю, якое перамагае смерць. Сучасныя беларускія паэты і паэты другой паловы XX стагоддзя пайшлі за Максімам Багдановічам, развілі і паглыбілі яго запаветы, надалі і надаюць сваім паэтычным творам адпаведную нашаму часу шырыню абагульненняў. Не стаіць убаку і Мікола Кананові. Філасофскі тэзіс і глыбіня думак у вершах паэта ўдала спалучаюцца з сённяшнім днём, чалавечымі праблемамі, жыццёвымі сітуацыямі. Паэта гэта вельмі хвалюе, ён абыйсці гэта не можа, ён думае пра жыццёвыя праблемы, разважае, хаця і не крычыць sos:

Хутка, дачасна жаўцее лісце,
Сохне лес ад хімій карысці,
І паміраюць людзі не ў час,
І поўніцца, множыцца гэта ў нас.

Філасафічнасць стала адметнай рысай вершаў Міколы Кананові. Паэта цікавіць адвечнае пытанне пра тое, што вызначае чалавека як асобу. Складанае і простае, высокае і нізкае, светлае і цёмнае, глыбокае і павярхоўнае ў чалавеку – вось сферы даследавання паэта. Многія вершаваныя радкі так і хочацца запамінаць, занатоўваць, цытаваць. З аднымі можна не пагаджацца, да іншых проста далучацца і пагаджацца. Гэта – шчырая адкрытасць аўтара, якая заклікае да палемікі, да роздуму, а таксама да сціплага і сцятага маўчання. Невыпадкова новы зборнік паэта мае падзагаловак "Сцятыя вобразы". Гэтых "сцятых вобразаў" у

зборніку даволі шмат, іх проста трэба выпісваць, ствараць своеасаблівы слоўнік, над якім можна разважаць пра наша жыццё з розным сэнсам. Я разумею, што сёння і, відаць, заўсёды было цяжка сцвярджацца людзям, цяжка адстойваць сваё “я”, бо вакол нас яшчэ безліч непарадкаў. Але заслугай чалавека было і ёсць тое, што ён спрабуе выйсці пераможцам з усіх складанейшых жыццёвых выпрабаванняў, захоўвае сваю думку, сумленне і надзею.

Філасофія паэзіі Міколы Канановіча вось у гэтых шматлікіх глыбокіх радках на самым дне яго стамлёнае душы: “я жыў у тумане і з ім сыду на неба”, “а жывеш – як брыдзеш па замяці”, “жыву высока так, што не дастаць”, “цвёрдым стаў душой, як серп і молат”, “паэт – ён сам сабе адзінарог, які відаць над гэтым страшным светам” і г.д.

Паэт у зборніку “Вяртанне восені” рамантыкам не з’яўляецца, бо ён бачыць і адчувае наша рэальнае жыццё, а тут рамантыкі сёння мала. І бачыць яго сваім пільным вокам мастака і асэнсаванае яго філасофскім роздумам:

З пустэчы ў галечу,
З галечы ў пустэчу,
Па колу: туды і назад...
Ты прызнач мне сустрэчу
Між пустэчы й галечы,
Ты прызнач мне сустрэчу
у вятрах,
Радзіма!

Ёсць у паэта вершы пра каханне, сямейныя адносіны, пра беларускую прыроду, і ўсе яны

хораша ўпісваюцца ў аўтарскую канцэпцыю свету і чалавека, удакладняюць гаворку пра чалавечае і антычалавечае ў людзях, пра гармонію і дысгармонію ў нашым няпростым жыцці. Вобраз кахання і каханай паэт не саромееціца ў сваіх радках, у іх прысутнічаюць нават элементы сюжэтнасці і эратычнасці, тым больш, што гэтая сюжэтнасць узмацняе вершы вобразнасцю і лірычнай смакатой. Іх хочацца чытаць, перачытваць. Мне падабаюцца такія вобразы ў вершах Міколы Канановіча. Спадзяюся, што яны спадабаюцца і чытачам. Напрыклад:

Выгін нагі і покліч плоці
Атаясомлены ў адно...
Сваёй бяздоннае мілосці
Нальеш мне поўнае вядро.

Зборнік вершаў Міколы Канановіча "Вяртанне восені" даўно павінен быў прыйсці да чытачоў. Бо вершы ў ім напісаны шчыра і ад душы, без фальшу і выбрыкаў. Гэта не проста паэтычныя радкі – гэта паэтычныя адкрыцці і ўсвядомлены, мэтанакіраваны рух да сінтэзу, ад якога магчыма залежым мы, наша творчасць і наша жыццё. Таму, спадар Мікола, няхай ніколі яшчэ не стамляецца твая светлая душа ў няспынных пошуках і штурме новых паэтычных вышынь.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# 1. КАХАННІ, ГАДЫ, ЖАДАННІ

## Туман

Туман схаваў царкву,
І могілкі, і поле.
З жыццём былым парву.
І боль не будзе болем?..

Няўтульнасць, неспакой,
Нявызначанасць шляху.
І слізка пад нагой,
І не відаць абсягу.

Я ведаю, туман
Развеецца апоўдні.
Ды не загоіць ран
І шлях змяніць не здольны.

Што позна, а што не —
Тлумачыць мне не трэба.
Я жыў у тумане
І з ім сыду на неба.

# Разводдзе

**Не я б'ю, вярба б'е —**
**Праз тыдзень Вялікдзень...**
*(Прыказка)*

Сеецца сонца праз вэлюм акна.
Адлюстраванне вады на пацёсе.
Вецер схмялелы, нібы ад віна,
Спіць у аблоках, як на пакосе.

Вось і прыйшла, і настала вясна —
Вечная моц адраджэння прыроды, —
Каб выпіць сябе да астатку, да дна
І зноў пераліцца ў вясновыя воды.

Вясновыя воды... У сто гадоў раз,
Кажуць, бывае такая паводка.
Вострававм вёска завецца у нас —
Быццам на востраве хатаў чародка.

Спасу няма ад вялікай вады.
Нат да царквы шлях адзіны стаў — водны.
І будуць расказваць бабулі й дзяды
Унукам не раз пра "святыя" прыгоды...

Усё гэтак проста: Вербніца, пост,
Разводдзе, што рэчкай плыве па дарозе,
І той напалову размыты ўжо мост,
Што звязвае вёску з царквой у знямозе.

# Вогненны певень

У сурдуце вогненным спявак
На двары суседскім крыкнуў файна.
Радасна яму не проста так —
Даўся курцы маладой у знак,
Горла перад ёй дзярэ адчайна.

Лёд трашчыць пад сонцам красавіцкім,
Дзень вясновы набірае тэмп.
І, здаецца, я адзін аслеп,
З хараством не зладзіўшы крынічным,

Бо сваю душэўную мігрэнь,
Да якой няма нікому справы,
Не паслаў ні ўлева і ні ўправа,
Ды азмрочыў ёй вясновы дзень.

Я, дзівак, разбэшчаны жаночай
Здраднай прыгажосцю, жарсцю слоў,
У сабе капаюся ізноў
І знаходжу толькі боль і роспач.

Ды навошта ў гэты вербны дзень
Мне спакою не дае трывога:
Ці знайшла хаця б адна з іх Бога —
З тых жанчын, што праклялі мой цень?..

Свет святла у Вербніцу святую
Па падмерзлай з раніцы шашы
Памаліцца аб маёй душы
Кліча у царкву адну матулю.

А ў сурдуце вогненным спявак
На двары суседскім топча курку.
Гэта мне цяпер ён даўся ў знак,
Я ўжо знаю, што не проста так —
Вечарам я выйду на прагулку.

## Бяроза

Галубы цалуюцца ў зацішку.
Дождж па-ціху сохне на зямлі.
Хлопец хісткі, сербануўшы лішку,
Штось струменем піша на камлі.
Шапаціць зялёная бяроза,
Асалоды ёй з таго няма,
А тут баба выпусціла козы,
Каб кару згрызалі задарма.
Толькі сонца свеціць так ласкава,
Вецярок лагодна сушыць так,
Што бяроза людзям даравала
І не біла козаў па зубах.

## На Дзяды

Чорнае лісцё... Зямля пустая
Ворывам прылегла на спачын.
Асенні вецер дзьме ад небакраю
І здаецца горкім, як палын.
На Дзяды — вакацыі... Вусцішна.
Поўніцца трывогаю душа.
Вецер свішча. Быццам на гарышчы
Чэрці ладзяць з ведзьмамі шабаш.
Вёска хутка хутаецца змрокам,
І не спіш пад поўнач ты адзін...
Мо за ўсіх адзін цвярозым зрокам
Аб прашчуру бяссонніш успамін.
Мо таму вусцішна так і горка,
Што забылі мёртвых і жывых,
А замест душы гадуем горла
І дзядоў хаваем маладых.

## Адказ сябру

“...Мікола, прачытай і не грашы —
Не пішы так многа чорных вершаў!
Лепш на дне стамлёнае душы
Аксаміт знайдзі пачуццяў лепшых!..”

Што шукаць, і што мне адказаць? —
Як з бярозы пазрывала лісце,
Як зрабіўся чорным белы сад,
Як кахалі, можа, мы калісьці?

Мілы сябра! Ты маю бяду,
Як заўгодна лёсу, — не спазнаеш.
Дык лаві ж імгненні на ляту —
Тое, што ты шчасцем называеш!..

А пра вершы — я іх не пішу,
Яны чорным пэцкаюць паперу,
Як ваду, зліваючы душу,
Каб зімою не размёрзла цела.

Мы з табой сустрэнемся яшчэ —
Дзынкнем промнем залатым бакала
Ў нашай і чужой ужо вясне,
Што ў снягах, нарэшце, аддрамала.

## На бацькавы ўгодкі

Бабуля, дзядзька, бацька —
Помнікі, крыжы.
Са снегу дзень пачаўся,
З марознае імжы.
На бацікавы угодкі —
Крыштальны холад шкла,
А на шчацэ ў матулі —
Дрыготкая сляза.
— Памёрлі маладымі.
Ім жыць бы яшчэ й жыць,
Нібы жыцця палова
Пад каменем ляжыць!.. —
Губляюцца ў прасторы
Гукі жалобных слоў.
Удовы сваё гора
Хаваюць ад сыноў.
Ды чарка страпянецца,
Як сэрца, у руцэ,
Болем, жывая, б’ецца
Душа ў халодным шкле.
“За ўпакой” чытае
Прывычна ўжо сястра,
А на крыжах канае
Пакутны цень Хрыста.
І мне спытаць бязбожна
Так хочацца ў яго:
— Ці Ты дамогся, Божа,
Нам раю там свайго?

***

Вымятае жнівень лета
Дзённай спёкай, стынню ночы.
На палетках абагрэтых
Трактар з раніцы вуркоча.

Скрыдлы чорныя зямелькі,
Як пяра па ржышчы росчырк,
І вароны, быццам сведкі,
Нешта выглядзець там хочуць.

А бяроза уздыхае
За сялом па гаспадыні.
Як лістота аблятае,
Ці лягчэй тады галіне?

Позірк хоча затрымацца
Ды не можа, мімалётны.
Мне ніколі не застацца
Сярод восеньскай самоты.

Гэтым доўгім жоўтым шляхам,
Пад машынны пыл і грукат,
Позірк мой стамлёным птахам
Даганяе вырай Духу.

***

Прахалода вячорнага жніўня
Студзіць раны душэўных баёў.
Заплятаецца зноў павуцінне
Турботаў мінулых гадоў.

У сваёй ці чужой каляіне,
Дзесьці будзеш ісці ці паўзці.
Будзеш думаць, што служыш Айчыне,
Каб жыццю апраўданне знайсці.

Ў прыску попельным яскарку ўбачу —
Хай надзея ўваскросне, як Сфінкс,
Можа, шанец пакіне на ўдачу,
На апошні жыццёвы капрыз.

У святых вачанятах дзіцяці
Мільгануся, як прывід, як сон,
І шкадоба аб страчаным шчасці
Не азмрочыць адчаем мой скон.

# Дождж

Па завядзёнцы, тэмай для верша
Можа стаць дождж,
Што праліўся нарэшце.
Доўгачаканы — неспадзявана!
Для бульбы — запозна!
Для руні — зарана!
Для нас з маці таксама
Зусім нечакана:
Прудзіць бялізну ўзяліся мы з рання,
А дождж — паласкаць яе,
Але — зарана!
Стаяць пад дажджом для мыцця
прычындалы.
Я ж праз акно пазіраю на хмары.
Мне крышачку сумна. Я ўвечары з'еду.
З жанчынай пра дождж буду весці бяседу,
Што тэмай зрабіўся спантаннага верша,
Які з неахвотай я зараз завершу,
Бо скончыўся дождж, і бялізна чакае,
І мама мяне ўжо з надворка гукае...

***

З пустэчы ў галечу,
З галечы ў пустэчу,
Па колу: туды і назад...
Ты прызнач мне сустрэчу
Між пустэчы й галечы,
Ты прызнач мне сустрэчу
ў вятрах,
Радзіма!

***

Стылая сінь снягоў,
Сум туманоў сівы
Заледзянілі кроў,
Запаланілі сны.

Не вее вясна цяплом —
Холадам доўжыць дзень.
За згніўшым старым гумном
Згубіўся аблудлы цень...

На ростанях, на мяжы,
Дзе кіруе жыццём адчай,
Баліць у тваёй душы
Абрабаваны Край.

# Сон

Мне здалося, што груша няўзнак расцвіла,
Сакавік за акном белым сном апрануўся.
Мне праз шыбу акна гэта казка відна,
Ды не ведаю я, ці прачнуўся.

Помню, вецер так выў у застрэшшы, бы воўк,
І апоўначы сон не прыходзіў.
На канапе я марна шукаў пяты бок —
Думак сумных мной рой верхаводзіў.

І паверыў на міг: будзе вечнай зіма,
Гэты вецер і ноч без надзеі,
А камп'ютар сусвету — мая галава —
Захлынецца ў бялюткай пасцелі.



## Inkognito

Я Вам пакладу на стол
Цяжар сваіх абяцанняў...
Не страляйце вачмі ва ўпор —
Я ўсё роўна адзін да рання.

Надакучыў халодны свет,
Як экспромты Вашых падманаў.
І жаданняў маіх букет
Мяне ж абцяжарыў.

Я Вам ружы не прынясу
І не скажу: “Бывайце!”.
Мы ўдвух перайшлі мяжу,
Але мяне — прабачце!

# І доўжыцца ноч

Хтосьці баіцца адзіноты,
хтосьці — бяды.
Мы ж, як тыя краты,
цёмныя,
баімся сваёй цемнаты.
Бо стагоддзямі — ноч,
І тлустыя прыхадні-павукі
са свінымі лычамі
ўюць з нас вяроўкі
і плятуць на магілы вянкі.
Яны выкшталцона
ўмеюць піць кроў
і тлусцець
на галечы “братоў”.
У гэтым іх сэнс
ды мэта быцця.
...І катэгорыі вечнасці
існуюць для нікчэмнасці.
Бо мы, як тыя краты,
цёмныя,
баімся сваёй цемнаты...
І доўжыцца ноч.



# Вароны

Свабоду спаць штораніцы вароны
Сваім гартанным гарканнем нітуюць
У сузіранне вязавай кароны,
Дзе гарлапаны ў гнёздах так шчыруюць.

Што ж, устаю, не глянуўшы ў люстэрка,
Каб дар цярпець не страціць канчаткова,
Іду на кухню. Там стаіць бутэлька,
Што ціск жыцця ўтаймуе адмыслова,

І спакваля прыгадваю учора:
Дзяўчына, бар, гарэлка, апельсіны,
Спявачкі нейкай нудзіўшае сола
І танец — як з вяроўкай на асіне...

У спалучэнні словаў "усё роўна"
Зноў не знаходжу сэнс і апраўданне,
Але, здаецца, сэрца б'ецца роўна
У першых промнях новага світання.

Калі б яшчэ не гэтыя вароны —
Будзільнік дзён маіх аўтаматычны,
І ў чорных плямах гнёздаў дрэваў кроны —
Я быў бы па-шчасліваму статычны.

## У стыні дажджу

Шэрым мяшком сярод лета
Стала цяжарнай зямля.
На небе нябачна прасвету
З раніцы і да цямна.

Свет як патух без святла,
Вільгаць пачуццяў гняце.
Тут маёй мілай няма.
Дзе мне шукаць яе, дзе?

Сцены дамоў і кватэр,
Сцены кантор і карчмы,
Вуліц дажджлівы бар’ер
І ўсюды — абрысы турмы.

Гэта Радзіма мая
Канае ва ўласных слязах,
А мне падалося, што я
Павіс на дажджу ланцугах.

# Гульня

Глухамань. Хоць страляй, хоць кайся —
Не пачуе ніхто, нішто.
Што ж, прыгожая, распранайся,
Пагуляем з табой ў лата.

Ёсць адна на дваіх нас луза
І шар — адзін на дваіх.
То мо выйграем карапуза,
Каб пусціць па слядах сваіх?

А нязгодная — і не трэба.
І без нашых — галечы шмат.
Пастраляць халастымі ў неба
Я з табою таксама хват.

Толькі сумна, што без працягу,
Толькі пуста будзе пасля,
Што й не змерыць таго абсягу
Ля апошняй рысы каля.

Усміхаешся вабна, звадна.
Аддаешся — як на паказ.
Але хто тут, мая ты панна,
Ў глухім лесе, убачыць нас?

Котка дзікая ў дзікім месцы,
Ты не ведаеш, што няма,
Няма болей нідзе нам месца
І кахання болей няма.

Сюды я прывёў на згубу
Цябе і сябе з табой.
Непадзельная, не па кругу,
Ты ад жарсці памрэш са мной.

У віне гэтым — не атрута.
Атрута — наша жыццё.
І мы не выйгралі шалапута
У гульні для гульні на ўсё.

## Вочы

Стамлёныя, хворыя вочы.
У дыме плыве пакой.
У парку песняй рагоча
Нейкі папсовы гной.
Цяжка, фізічна цяжка
Ад засілля чужой лухты...
Мо пагрэла б у ложку Машка? —
Ды далёка да сцёгнаў тых.
Распагодзіла б мо сябрына? —
Далёка жывуць сябры.
Мо аздобіла б вечар дзяўчына? —
Ды прайшлі для дзяўчат гады.
І стамлёныя хворыя вочы
На сябе ў люстэрка глядзяць,
А ў зрэнках, чарней ад ночы,
Ліхтары надзеі гараць.



# Восеньскае

Вязнямі — кнігі ў шуфлядзе.
Гадзіннік адстуквае дні.
Восень на далягля́дзе,
А здабыткаў — ані!

Калгасны кірмаш прыедзе
Раённы карміць гарадок,
А я заблуджуся недзе
У лесе на той дзянёк.

Знікну з астылых вуліц,
Пакіну людскі натоўп.
Хай ціша бору атуліць,
Што ў ступе жыццёвай стоўк:

Каханні, гады, жаданні,
Мары, надзеі, час,
Падзенні і беснаванні,
І шанец яшчэ на раз.

## Сустрэча

У горле загразлі словы.
На рынкавай плошчы час
Спыніўся, і да высновы
Прыйшоў я ў чарговы раз:
Мінулае не ўваскрэсне,
Успаміны здадуць ў архіў,
І сэрца пры тым не трэсне,
Як твой дзіцячы наіў.
Восенню будзе слота
І млявая слота — вясной.
І псу ўся пад хвост работа
Вянчаць будзе твой настрой.
Ды дзесьці на самым донцы
Бадзячай сваёй душы
Ты будзеш чакаць бясконца:
Пакліч! Прыйдзі! Напішы!..

## Мінуласць

Імгненні, гадзіны, гады
Сціраюць падзеі і твары.
І нам не вярнуцца туды,
Дзе ўчора грымелі фанфары,
Дзе рэчкай лілося віно
І клятвы гучалі ў каханні —
Мінула, сплыло, адышло,
Сталася фактам пазнання
Хісткасці тых пуцявін,
Што звязваюць нас у прасторы,
Дзе час valadарыць адзін
Халодны і ў шчасці, і ў горы.
Толькі ўспамін пачуцця,
Якое даўно адбалела,
Мінуласцю стала жыцця —
Адзінае, што ацалела
У памяці з даўніх часоў,
З другое эпохі, з юнацтва.
І колькі б шляхоў не прайшоў,
А іншаму ўжо не застацца.

***

I.
Ты мае не чытаеш вершы
Не прысвечаныя табе,
Ды наперадзе твор наш лепшы
Сэнсам станецца для цябе.
З дня на дзень вясна надыходзіць.
Так пранізліва пахне снег.
Ты па ім асцярожна ходзіш,
Бо табе паслізнуцца грэх.
Чакаеш лета і сонца,
Каб жыццём распусціцца з ім
І падоўжыць жыцця бясконцасць,
І застацца ў ім нам дваім.

*26.02.2004*

***

I.
Адбітак мройны, вабны, ладны...
Ці вобраз існы, а ці сон?
Твой колер скуры ліманадны
І нутраны працяглы стогн.
Выгін нагі і покліч плоці
Атаясомлены ў адно...
Сваёй бяздоннае мілосці
Нальеш мне поўнае вядро.
Я буду піць, пакуль, сасмяглы,
Не наталюся да краёў,
А ты зноў скажаш:
“Спі, мой прагны,
Я вартаўніца тваіх сноў...”

# Жывеш

Пацякло, паплыло, паехала,
Што ўжо не сабраць у адно.
Засталася б страха на месцы хоць,
Калі з дрэвам сплыло дупло.
Стыхія такой пачварнасці,
Як паводка ранняй вясной,
Змывае ўсё да крайнасці,
Непрыстойнасці да самой.

І вось ты застаўся голенькі.
Пара прымаць кантрацэпт.
Зацяжарыш, інакш, па поўненькай
І з вадою сыдзеш ў кантэкст.
А табе ж так хацелася выплысці,
Застацца самім сабой,
І ў сваёй гартавацца існасці,
І дарогай ісці сваёй...
Жаданні — мярэжы памяці,
З кожным годам іх менш і менш.
А жывеш — як брыдзеш па замяці,
А жывеш... таму, што жывеш.

## Дачасна

Хутка, дачасна жаўцее лісце,
Сохне лес ад хімій карысці,
І паміраюць людзі не ў час,
І поўніцца, множыцца гэта ў нас.

## Дачка

Яшчэ адзін год.
Яшчэ адна восень.
У сям'і — прыплод:
дачка — вочы ў просінь.
Беларусачка — ўся ў мяне
і, канечне, крыху у маму,
Гэтай восенню нам пяе
пра што ведаць павінны самі.
У дачкі задача — расці,
спасцігаць таямніцы свету,
Каб калісьці прайсці па лісці,
першы раз патаптаць планету.

*Восень 2004*

## Хвароба

Залацістая, рыжая, мілая!
Развітальны твой позірк злавіў.
Не хацела, мая ты любімая,
Расчапіць сваіх ручак наіў.
Ды хвароба аднолькава жорсткая
Да старых і да дзетак, як ты.
У вачанятах — гаркота маркотная.
То ў твой годзік і месяцы тры.
Адпускаць у палату бальнічную —
Быццам сэрца на лекі здаваць —
Дзяўчыначку нашу цяплічную...
Але мусім лячыць і трываць.

*11.11.2005*

## Хрысціне

На жоўта-брудным восеньскім фоне —
Ясныя вочы маёй дзяўчынкі.
Ідзем за руку мы з ёю паволі
І топчам у лужах першыя льдзінкі.

Пра клёны чырвоныя ў нас бяседа,
(Хоць стаў варыцца супу каструлю),
Затым дачка нешта кажа пра дзеда
І ўспамінае сваю бабулю.

Мы заўтра паедзем у госці ў вёску
У цёплую хату да бабы з дзедам,
Дзе добра так спіцца на дзедавым ложку,
Дзе баба за ўнучкай тупае следам.

...Малая набрала лістоў кляновых
І звонка ў двары гарадскім смяецца,
А ў мяне ад пачуццяў старых і новых
Не ў такт імгненню сціскаецца сэрца.

## Восень

*Памяці М.І. Данільчыка*

Восень тут — арэна бульбы спелай,
Восень нам — памочніцца ва ўсім.
Гэта проста восень падаспела,
А не ты састарыўся зусім.

І няхай спяваюць алілуя
Ў лістападзе злосныя вятры,
Гэта ні жыццё тваё мінула —
Проста наступілі халады.

# 2. СЦЯТЫЯ ВОБРАЗЫ

## Гады

Часцей, гусцей, хутчэй кладуцца
Гады радамі, і таму
Назад мне страшна азірнуцца —
Нібы па могілках іду.
Хаду штогод тармозіць стома,
Наўкола большае крыжоў.
І ўжо дакладна невядома,
Ці да свайго я не дайшоў?

## Размова

І кажу я сабе: ”Табе нельга больш піць!”.
І кажу я сабе: “Табе нельга любіць!”.
І пытаюся я: “Для чаго ты жывеш?”.
Толькі рэха ў адказ паўтарае:
“Еш!.. Еш!..”.

## Здзіўленне

Бабульку, скручаную ў крук,
У суд чагосьці прывялі.
Ў руцэ яе прыціх кульбук:
“Другі паверх?!. І свет другі...”

## Жаданне

Мяжуюцца імпрэсія з дэпрэсіяй,
Ды гоніць час з нябачнае мяжы.
Эх, пастаяць бы, пакуль ёсць кампрэсія
У сэрцы, а не надпіс на крыжы!

## Наш час

Згубіўся час на палявых дарогах
І на шашы ў сталіцу і з яе.
Калі здаецца нам, што часу многа, —
Мінае ён, мінуў альбо міне.



## Сын і бацька

І стаў на бацьку сын падобны —
П'яны ён ходзіць і галодны.
Казалі, дзед іх лепей жыў —
Даўнейшы пан болей плаціў.

## Канфлікт

І прыйдзе цела,
Бо захацела.
І асароміцца душа,
Ёй грэх — і болей ні шыша.

## Хто крайні?

У гэтай галечы, у гэтай вар'ятні —
Ты крайні...

## Барацьба

Сваркі, падвохі, паклёпы, згрызоты —
Чакаюць і ў пекле нас тыя ж турботы.

## Сімвал

Заграз “Беларус” на балоцістым полі —
Сімвал імкнення краіны да волі.

## Няроўнасць

Вецер. Пустэча. Ліст на дарозе.
Люты без снегу канае ў знямозе.
А дзесьці далёка, у іншым паўшар’і
Стогне ад спёкі зямля у бясхмар’і.

## Чуткі

Накрыўся адзінотай з галавою —
Сказалі, што знюхаўся з бабай чужою.

## Выбар

Калі ў начальнікі выбралі хама —
Ў акрузе закрылі апошнюю краму.
А тыя крэціны, што выбіралі,
Ездзяць па хлеб у далёкія далі.

## Замена

У адчайным каханні
Быў лагічным працяг:
Знайшоў сабе іншую
І пражыў проста так.

## Баязлівец

І нехта хіжы у цябе спытае,
І нехта прагны адбярэ тваё,
І будзеш жыць, як сірата якая,
І пры сабе насіць усё сваё.

## Мера

Хацеў ён змераць апраметную
І... ажаніўся з малалетняю.

## Дабрабыт

Цяпер мы ў нашым дабрабыце,
Як парасяты у карыце,
Бо калі падае адзін,
То застаецца больш другім.

## Соткі

Соткі. Соткі. Соткі. Соткі...
Выпіць бы цяпер па сотцы!
Ды трымаюць, не пускаюць,
Як вяроўка сілу маюць
З дробнай бульбай нашы соткі.

## Інтэрнацкая гулянка

Слоікі. Шклянкі. Пляшкі. Талеркі.
Вясёлыя хлопцы. П’яныя дзеўкі.
Пах перапаленай рускай гарэлкі.
На брудных штанах вельмі вострыя
стрэлкі.
Тонкія пальцы. Дрыжыць цыгарэта.
Ад попелу сорамна стала паркету.
Дым не знаходзіць выйсця пад столлю.
Двое спрабуюць заняцца любоўю.
Двое спрачаюцца. Трэцяя плача...
Вяселле сабачае гэта — няйначай!



# Дзівак

*С.Г.*
Няхватка грошай да палучкі,
А холад — лішні да цяпла.
Размовы з хлопцамі пра злучкі,
Як пра каханне давідна.

Ды ноччу — марнасць успамінаў
Ці марнасць працы — пад настрой,
Бо лёс падкінуў (ці пакінуў?)
Яго сам насам жыць з сабой.

Прыхільнік краснага пісьменства
Трапляе часта у кантэкст
Эпохі без надзей і зместу,
Апроч таго, што “кожны есць”...

Калі грашовых знакаў мала,
Тады — на пляшку не шкада.
Амаль стагоддзе адгуляла
Так пралетарская арда.

Таму чын з чынам і па чыну,
І не па чыну нашы п’юць.
Здаровы сэнс даўно пакінуў
Людзей, што побач існуюць.

Калі ж ужо зусім абрыдне,
Ён падымаецца наверх.
Там ёсць адзін (не п’е, як злыдня)
Паэт, філосаф, чалавек.

Паэт свой вершык пачытае,
А госць падумае ізноў:
Зямля цярплівая трывае
На свеце розных дзівакоў.

## Бытавое

Зіма. Аўтобус. Яе вочы.
Дарога. Праца. Холад. Дым.
Дым цыгарэт агорне ўночы
Пакой халодны... Ты адзін.

Уранні — душ. Аўтобус. Праца.
Пад вечар — стома, думак тлум,
Якраз на пончык з пляшкі здача...
Дым цыгарэт і шэры сум.

# На рыбалцы

На Лабазоўскім возеры
Паплаўкі стаяць слупамі,
Ідуць бурбалкі са дна,
Сёння там над рыбакамі
Лешч смяецца адвідна.

Бо ні раніцай, ні потым,
Ні апоўдні, ні пазней
На пярлоўку дробным шротам
Рыба нават ні зірне.

І хістаюцца на хвалях,
Як сіроткі, паплаўкі,
Ды аб дальніх мараць далях,
Далях клёвых рыбакі.



## Шчара-рака

Любіць Шчара-рака
Без улову рыбака,
Сёння, ўчора і раней,
Кожны ранак,
Кожны дзень...

## Хрысціне

Твая найвялікшая рыба
(У дробным рыбацкім жыцці)
З катом любіць бегаць і цыгаць
Ды ў школу збіраецца йсці.

Затое ў садок свой — не хоча!
Хоць хваляць дзяўчынку ў садку,
Дачка то крычыць, то балбоча:
"Дурны ён! У сад не хачу!..".

Мая найвялікшая рыба
У шчасным рыбацкім жыцці
З катом любіць бегаць і цыгаць,
А ў садзік не хоча ісці.

# 3. НА МЯЖЫ

## Лютаўскае

Ну, вось і ўсё. І лавачка зачынена.
І вольны ты, як вецер на гары.
І што было — апошні раз панішчана,
Але, згарэўшы, болей не згарыш.

Пранізлівы, халодны да пякучасці,
Ці вецер, а ці дождж, ці ўласны боль?!
І люты, самы люты, да адсутнасці,
Хаўтурны месяц сыпле сваю соль.

# Па дарозе

*(Фантасмагорыя)*

На сядзенні заднім — бо забілі —
Прымясціўся Божы раб Мікола —
Бачу я сябе ў аўтамабілі,
Што у бок ад свету круціць колы.

Застаецца, белым палыхае
Квецень красавіцкая мястэчка,
Дзе ніхто мяне ўжо не чакае,
Не кахае, не запаліць свечку.

Я імкну ў халоднае нікуды
І на Божы рай не спадзяюся,
Не баюся пранцаў і прастуды
І ні з кім ужо не пасваруся.

Не страшныя мне цяпер “канвоі”
І да фені праца па Сізіфу.
Еду я у вечныя ізгоі
Па зусім бясплатнаму тарыфу.

Бо — забілі. Значыць, ёсць нагода
Не ў чаргу па рай да Божай брамы,
А дамоў, ў Вялікае балота,
Дзе бываў калісь шчаслівы самы,

Дзе Зяльвянка з Летай нерастуюць —
Еду на бясконцую рыбалку.
Там самы са мною пасябруюць,
А ў каханкі выберу русалку.

## Уцёкі

Няма цяпла. Прырода ахалодала.
Няма вясны у днях красавіка.
І нават тая, што заўжды прыходзіла,
Далей ад гэтых месцаў уцякла.

І ад мяне цвярозага ці п’янага,
Занятага то справай, то сабой,
Таксама уцякла ўчора каханая
На пару з не здабытаю вясной.

А мне куды ад нэндзы беспрасветнае,
Ад безграшоўя, бескватэр’я, без?..
У вёску зноў?!.. Яна адзінаверная
Таму, хто сам не кінуў гэтых “крэс”.

Я нарадзіўся тут. Я тут Радзімай спляжаны,
Ушчэнт падрыхтаваны выжываць,
На самы грэбень ўсіх жарсцей пасаджаны,
Жыву высока так, што не дастаць.

***

Немагчымасць кахання,
Як лічбы чужыя
На нечых рахунках.
Імя тваё стрэлам
Гучыць летняй ноччу,
Але клічуць дамоў не цябе.
Не спіцца.
І нервы на твары казычуць
Скуру, што час
Хутка з твару сатрэ.
Немагчымасць жыцця
У прасторы і часе
На гэтых прасторах
Часоў небыцця.
Дык што ж так у скрусе,
Ў знямозе,
Спакусна,
Як сэнс найвышэйшы, —
Жанчыны імя?..
Немагчымасць кахання.

***

Макрэча ў душы, макрэча,
І горад каторы дзень
Пад парасонамі крэхча
Змрочных, як хмары, людзей.
Куды ад іх змроку падзецца,
Калі такі ж цёмны сам? —
Жыццё ў ступе таўчэцца
Асабіста-грамадскіх драм.
І каваль — нават не падмайстра,
Каб вартае штосьці скаваць.
І толькі “светлае заўтра”
Дае сілы яшчэ трываць
Гэту непагадзь чалавекаў
І макрэчу ў сваёй душы...
Для пародый каб нізку вершаў
На мокрай знайсці шашы.



# Пра рогі і паэта

Бывае часта брыдкім твой настрой,
Настрой паэта з бакавой дарогі,
Ды радыя таму наперабой
Тыя, каму ты панаставіў рогі.

Яно заўсёды, мабыць, так было:
Калісь — дуэлі, а цяпер — падвохі.
Але ж ляпіў, ляпіў на ўсё чало
Мужам паэт разгалістыя рогі.

Ды не за тое, пэўна, сёння Бог
Так скараціў патрэбу у паэтах.
Паэт — ён сам сабе адзінарог,
Які вісіць над гэтым грэшным светам.

І хоць цяпер ты ўсё такі ж штукар,
Мой брат паэт, мужам наставіць рогі,
Але ужо — не думак валадар!
А целаў, што ж, было заўсёды многа.

Таму такі і брыдкі твой настрой,
Што у жыцці — па бакавой дарозе,
І што народ “не дружыць з галавой”,
А сэнс быцця знаходзіць ў поўным розе.

## Калыханка

### На Беларусі пчолы як гусі

*(З народнага)*

Адсвяткавалі. Заўтра будзень зноў.
І ў гэты будзень будзе мала грошай,
А ў некага пабольшае даўгоў...
— Спі, мой харошы!

На працы цяжка пасля святаў так,
Як быццам свята — горшае за працу.
— Ты не пакутуй, уключы, дзівак,
Апахмялятар — гэтак раяць знаўцы!

То вымагае зноў выдаткаў, што ж,
Калі няма — лічыць не будзеш грошы.
Ці тысячу ты вінен, а ці больш?! —
Пазыч, харошы!

Кажаш, што разменьваеш жыццё? —
А калі й гэтак,
То што наогул зменіцца з таго? —
Гуляй ад дзетак,

Гуляй ад жонкі, ад сям'і,
Гуляй ад злосці.
Пакуль яшчэ піць можаш — пі!
Ад маладосці.

А пасталееш, будзеш піць, —
Аж спарахнееш, —
Ўжо ад таго, што ўсё баліць,
Што йнакш не ўмееш...

Спі, братка талерантны мой,
Спі, беларусе,
Хай пралятаюць над табой
Пчолы, як гусі...



# Ліст да жанчыны ў класічным стылі

Помніш, са сталіцы я з'язджаў, —
Ты не змагла прыйсці, каб развітацца.
Тады цябе я ўсё яшчэ кахаў
І вельмі мне хацелася застацца.

Ды не спазніўся транспарт мой тады, —
Я з'ехаў ад цябе ў раённы горад,
І за сабою папаліў масты,
І цвёрдым стаў душой, як серп і молат.

З тае пары мінулася гадоў
Якраз з палову, як табе ад роду.
Цябе кахаў я вельмі маладой...
І прыгажосць твая не мае зводу.

Па "тэліку" на днях глядзеў цябе —
Так складна мовіш у прамым эфіры!
Ды мова руская твая цячэ
Цяпер зусім наўзбоч ад маёй ліры.

А ўчора кніжку ўзяў перачытаць
Агульнага знаёмага васпана,
Што ў эміграцыі застаўся пачакаць,
Пакуль мы тут перажывем тырана.

Алоўкавыя запісы твае
Там засталіся на палях у кнізе,
І клічнікаў замнога (як па мне)
Паставіла яму ты ў самым нізе.

Пазней табе ён верш свой прысвяціў,
Ў якім назваў дачкою азіята.
Злавала на яго — аж мне наўздзіў! —
І вершаў начыталася багата.

Пра ваш раман мне нехта расказаў
Ужо па сконе нашага рамана.
"Ты брат малочны мне?" — яго спытаў, —
Адказ станоўчым быў тады ў васпана.

Прайшлі гады — і жарсцяў тых няма,
Ні крыўды, ні сумненняў, ні трывогі...
Сум аб былым, як мутная вада,
Хіба што кліча паглядзець пад ногі.

А хто куды, у што, каго цяпер? —
Няважным стала за заслонай часу.
Ён недзе там, загнаны, быццам звер,
Я тут тапчу пакуль зямельку нашу.

А ты ў сталіцы дома
 вольнай птушкай,
Жанчынай распектабельнай жывеш...
Яшчэ, магчыма, пад тваёй падушкай
Пакіне хтосьці закаханы верш.

***

А ён адразу перамог,
прыйшоўшы госцем нечаканым,
словам гуляючы няверным,
спрактыкаваны ад дарог.
Яму хлусню ўнушыў не Бог —
жыццём спасціг ён гэту існасць,
завуаліраваў празрыстасць,
і сам пазбыўся ад трывог...
Яму хлусню ўнушыў не Бог.

# Мяжа

*Антыпаэма*

1

Недзе там, у мінулых гадах,
На ростанях, на скрыжаванні
Застаўся п’янкі гарадскіх ліпаў пах
І юная ты у вясновым убранні.
Недзе тут, у палях і лугах,
Ля ракі і на возеры нашым
Гуляе на волі душы маёй птах,
Што ніколі не здрадзіць
Надзеям і марам юначым.
Недзе ўецца дарога,
Прастора з-пад колаў ляціць у нябыт
Майго часу, што тут мне адведзены Богам —
І я забываю на ўзрост і расхрыстаны быт,
І раблюся дзіцём,
Неразумным свавольным гарэзам,
Што ловіць вялікую рыбу
У мёртвай рацэ.
Ды болей за ўсё,
Можа гэта мне толькі і трэба,
Покуль чырвань ад слёз
Не гарыць на зарослай шчацэ.

Недзе там, недзе тут,
Гэта недзе — на нашай Радзіме,
На няшчаснай, збалелай
І ўсё ж такі любай зямлі.
Пра яе ты згадаеш пасля

На далёкай чужыне,
Куды з гавані лёсу
Плывеш на ліхім караблі.
А мне шляху няма.
Тут народжаны, тут як прыкуты
Да ўсяго, што любіў
І што кляў у адчайнай журбе.
Моцы-сілы няма,
Каб парваць гэтай крэўнасці путы,
І спатолі няма ад знішчэння раба у сабе.
Толькі голад, як пёс,
Назаўжды застаецца нам верны
На Радзіме згібелай
І ў вольнай краіне чужой.
Гэта голад пазнання,
Аскепкі раструшчаных нерваў
(Не кажу пра кашэль)
Кіравалі на Захад табой.

2
Асабістыя страты — не страты,
Калі цэлы народ — за жабрачыя краты,
Калі сохнуць лясы,
А балоты становяцца стэпам,
Калі з дурнаты за краты садзяць паэтаў.
У няведанні як,
Калі гэтак жыць немагчыма,
Уцякае зямляк
Ад балючага слова "Айчына".
Кладзецца касцьмі

Араты ў сваім агародзе,
Лад калгасны “дастаў” з яго ўсё
Аж па самае годзе.
Ды, як з даўняй пары,
Зноўку кожны
Сам капае, як знае,
Да суседскай мяжы агарод.
А ўраджай (развучыліся?) —
Дрэнны, не вырастае.
Ці то спрадвеку няўмекам
На зямлі жыў народ?

3
Чалавек — так рэдка з вялікай,
Так часта — маленькі,
Часта — ніхто.
Памёр, адышоў ад жыццёвай сявейкі —
Як бы не было.
Забыліся ўчора, каб на забыўшых
Забыліся заўтра —
Так і жывём.
Дзе тая сутнасць,
Дзе тая праўда? —
Быллё!

Дзе цярпенню мяжа,
Дзе мяжа выжыванню? —
Мы зламалі даўно тонкі лёд
Над балотнаю тванню.
І балотны наш край

Ці не стане нам брацкай магілай,
А балоты праз час — дзікім стэпам,
А потым — пустыняй?..

Ты ўцякла за мяжу,
Ды мяжа у табе засталася.
Я паэму пішу
Без надзеі на нашае шчасце,
У якое мы верылі ТАМ,
Але страцілі веру,
Адабралі надзею у нас праз падман,
І душу — пад сякеру.
Так было ўжо не раз —
Мы не першыя ў жорнах зярняты.
Маліць і маліцца за нас,
За праведных, за вінаватых,
Не нашы нашчадкі з табой
На Дзяды яшчэ будуць,
А цяпер — час асенняй журбой
Нашу памяць астудзіць.

*1996*

***

Апала інеем раса,
Завяла летняя краса
лугоў і дрэў, —
Свет пастарэў.
Ды залатою —
не магу, —
Я восень так не назаву
Ні тут, ні там —
Усюды — спам!

...Няхай скукожваюцца дні,
Раней хай тушацца агні
Ў нашых дамах —
Нам спаць не страх.

## Пайшоў

Ён быў багаты, грошы меў,
Ён на мяшках грошай сядзеў,
Ён не скупы быў да таго ж —
Ён працягнуў мне медны грош
За маю працу...
Той бяды! —
Далёка ён пайшоў тады.

## Нябесная палучка

Дрыжэла ручка у руках
 лістом асеннім,
Твая душа ў нябёсах там
 трымцела ценем.
Ён набліжаўся залаты,
 няўмольна строгі
Да тых, ў каго і пекнаты
й грахоў замнога.

...Чысцец дрыжэў, як у руках
 дрыжэла ручка,
На ўсіх там незямных шляхах
Была палучка.

# Перасяленне сялянкі

“...З наседжанай хаты сваёй,
З-за немачы цяжкай і злой,
З-за старасці, што разам з ёй —
Да дачкі цяпер шлях ляжыць мой.
Каб жа магла — не пайшла!
Каб жа магла — тут жыла!
Роднае ўсё тут, сваё,
Дзе жыццё прамінула маё,
Дзе маці памерла і муж,
А мне — недзе ў свет цяпер руш
Глядзець на чужое сяло,
Што дачку да сябе прывяло...”
Сялянка збірала дабро
У торбы, ў мяхі і ў сукно,
І ўнукам казала сваім,
Што рэчы спатрэбяцца й ім,
Спатрэбяцца рэчы, харчы,
Сякач, якім курам сячы
Яду ў сваім чыгунку,
І чайнік — нагрэць кіпятку.
Ліўся яе маналог
(Быццам бы мовіў сам Бог)
Пра тое, што ўсё у жыцці
Павінна адбыцца й сысці.
... А потым — грузілі дабро,
Дзе рэчам — канца не відно!
Заставілі ўвесь грузавік
І клалі яшчэ ў легкавік,
Але не ўзялі гарбузы

І многа якой драбязы.
Вядома ж, за доўгі свой век
Шмат чаго сабярэ чалавек.
... На дарожку сялянка слязу
Не ўтрымала, бы тую казу,
І каціліся ў бабы сляза,
Як жыццё, без вяртання назад.

*Лістапад 2009*



## Вяртанне восені

...Снег растаў,
Пакінуў слякаць.
Вярнуўся восені фінал,
Ды ранак зноў
Дажджамі плакаць
З неба сярдзітага пачаў.

А было ж сонца,
Было снежна,
Была амаль ужо зіма...
Але ўвесь снег крысом бязмежным
Ноч, быццам венікам, змяла.

Халодны, шэры, непрытульны,
Якога не бярэ зямля,
Дождж сеецца на свет наш сумны,
І свет сцякае спакваля.

## Ашчадная кніжка

На шэрай паперы
Ды з яркай Пагоняй —
Ашчадная кніжка бабулі.
1993-ці.
Ужо так блізка
Да бабінай смерці,
Да смерці Пагоні
На кніжках ашчадных,
На Доме ўрада
І ўсюды,
Дзе здрада
Цісне, як прэсам,
Дзе чэрці ізноў
Пагоняць люд лесам
Далей ад шляхоў
І бліжэй да балота,
Дзе кніжак ашчадных
Не мецьме басота.

...Эпас народа
І шанс гістарычны
Пасад свой займець
На зямельцы спрадвечнай
Звузіў на пшык
Гарлапан той публічны,
Што выплыў наверх
З калатнечы галечай.
Памерла бабуля.
Падзерлі Пагоню.

І казка, і песня, і мова
Паснулі.
А іх абаронцаў
Дручкамі гоняць
Пагоны,
Што тоўстыя шчокі
Надулі.
Зноў чорная зграя
Лютуе над людам.
Даляры ёй, золата
Засцілі вочы.
Шчодра Хрыпаты
Аплочвае Юдам,
А тыя да здзеку
І гвалту ахвочы.

...Бабуліна кніжка
ляжыць у шуфлядзе
рэліквіяй памятнай
новага часу.
А што там далей,
і ці доўгі век здрадзе?.. —
Гэта ўжо тэма
іншага сказу.

## Посткалядны сіндром

Каляды.
Чорныя Ляды.
Быкаў Васіль,
Што так змрочна зусім?
Сыс Анатоль,
Ты ўзяў бы мой боль?..

Някляеў Уладзімір —
Ён за праўду, за мір! —
Ў “амерыканцы” адбыў
Новы год і Каляды —
Пашыраў далягляды
Ад кандыдата
Да арыштанта
І ў хаце сядзельца...
Ці баліць каму сэрца?

...Каляды ўжо ззаду,
Ў тумане далягляды,
Ў краіне — нарыў...

Беларускі матыў
У свеце прастыў.
Толькі з Расіі
Доўгія шыі
Цягнуць да нас —
Пільнуюць свой час.

...А я тут свой сум
Паміж вёсак пасу.

*Студзень 2011*

## Прагнасць

На даляглядзе — шэрань.
Паўзе пануры ранак.
На дрэвах чэзне зелень,
Пад дрэвамі — ападак.

А там, глядзі, сівыя
Ўсё маразы накрыюць,
І больш не залатыя
Лісты згніюць і згінуць.

Падчас зімовай сцюжы
Нам будзе сніцца лета,
Як бегалі па лужах,
Скінуўшы шчіблеты,

Як закаханым ранкам
Пасцель нам слалі травы,
Як кожны быў каханкам
І рыцарам адданым.

...Узімку успаміны
Вярэдзяць часта памяць
Вячэрняю гадзінай
Пад лютаўскую замяць.

Тады здаецца часам:
Не дакахаў свайго ты!
Цяпер жа лавеласам
быць —
Лішнія турботы.

Калі ж астыне прагнасць
Да кожнае спадніцы,
Якую не дагнаць ужо,
Якой не запыніцца?..

З пытаннем рытарычным
Пад коўдраю цяплюткай
Заснеш, як храм гатычны
На вуліцы бязлюднай.

## Час

Час разважыць і час знайсці,
Час застацца і час пайсці...
Прамінуў залаты наш час
Паміж ноччу і днём,
між нас.

## Вечар

Па белай паперы зімы
Блукалі нябачныя мы
Пакуль, як той сон між пачвар,
Нас вечар знайшоў твар у твар.



## Пытанне

...Ёсць сям’я і праца ёсць —
Не стае кахання!
Няма стомы, а ёсць злосць
На мяжы трывання.
Ёсць краіна ды няма
Тут тваёй дзяржавы...

Ці ва ўсім, чаго няма,
Вінаваты самі?

***

Жыццё ёсць жыццё —
ці там ты, ці тут.
Прастора і час —
гэта толькі умова.
Ад знешніх умоў
змяніўся маршрут,
але засталіся
час
і прастора.

ЗМЕСТ